ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

# Голас Радзімы

№ 14 (2208)

4 красавіка 1991 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

# ЗБІРАЦЬ ЗЯРНЯТКА ДА ЗЯРНЯТКА



**«Дзівак», «нефармал», «саматужнік», «пустэльнік» — ды хіба мала абразлівых і зняважальных ярлыкоў наклейвалі ў такі яшчэ недалёкі застойны час да апантанага даследчыка нашай даўніны — вучонага Міколы Ермаловіча. Доўгія гады ніхто яго не друкаваў. Афіцыйная навука проста ігнаравала незалежнага гісторыка, які дазваляў сабе, на яе погляд, занадта многа: гаварыць тое, што думае, а думаць не як усе. Доўгія гады М. Ермаловіч не мог прабіцца да чытача, прабіць глухую і моцную сцяну састарэлых ідэалагічных догмаў. Але ж часы мяняюцца. І ўсё становіцца на свае месцы. Напісаная вучоным больш чым дваццаць гадоў назад кніжка «Па слядах аднаго міфа» пазалетась убачыла свет, імгненна была раскуплена, неўзабаве выйдзе другое яе выданне. Толькі-толькі з'явілася ў продажы «Старажытная Беларусь» — шматгадовая яго праца аб ранняй гісторыі Беларусі часоў Полацкага перыяду. Абодва выданні адразу сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Яны «ўзарвалі» многія канцэпцыі і стэрэатыпы, што склаліся ў гістарычнай навуцы, пралілі святло на сапраўдныя і падтасаваныя факты нацыянальнай гісторыі.**

**Не абцяжараны славай і навуковымі рэгаліямі вучоны, якому ў красавіку будзе 70 гадоў, працягвае сваю карпатлівую працу па напісанню праўдзівай гісторыі Бацькаўшчыны.**

**З Міколам ЕРМАЛОВІЧАМ сустрэлася і пагутарыла наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

*— Мікалай Іванавіч, прыміце шчырыя віншаванні з нагоды выхаду вашай кнігі і з нагоды юбілею. Мы пра яе яшчэ пагаворым. Але наш чытач так мала ведае пра вас як пра чалавека... А вы ж амаль равеснік Савецкай улады. Прыгадайце свае юначыя гады. Якраз тады быў самы разгар барацьбы з так званымі «нацдэмамі», «ворагамі народа». Як тыя жахлівыя падзеі закранулі асабіста ваша жыццё, які пакінулі след?*

— Нарадзіўся я ў Дзяржынскім раёне на хутары Малыя Навасёлкі ў 1921 годзе. Бацькі — сяляне. У 1930 годзе яны ўступілі ў калгас. А ў 1937-м бацьку майго, які рабіў конюхам, арыштавалі. Ніхто нічога не ведаў: за што? чаму? Мне тады было 16 гадоў, і нас чацвёра дзяцей у сям'і... Што кепскага мог зрабіць бацька? Яго арышт быў поўнай нечаканасцю для мяне... А бяда ж адна не ходзіць. Праз месяц мяне выключылі з дзесятага класа. І прыпісалі вось які грэх. Я хадзіў у школу ў Дзяржынск — гэта 5 ці 6 кіламетраў ад вёскі. Туды і назад штодня. Нам задалі вучыць урывак з пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну. І я, ідучы дадому з тымі, хто з маёй вёскі і з суседніх, адкрыў кнігу па дарозе, каб не траціць час, і стаў вучыць. Раптам аб нешта спатыкнуўся. Падручнік выпаў з рук, запэцкаўся ў гразі. Мне тады і ў галаву не прыйшло нічога благога. Але ж назаўтра клічуць да дырэктара. І той адразу на мяне: «Як ты пасмеў кідаць пісьмо вялікаму Сталіну ў гразь? Ты ведаеш, што за гэта бывае?! Каб тваёй нагі не было ў школе!!!» Не захацеў нават выслухаць мяне, што выйшла тое не наўмысна, а выпадкова. Напісаў адразу загад. Гэта быў такі ўдар для сям'і. Ужо тады ў мяне быў пагоршыўся зрок, і маці разумела, што да вясковай працы я буду не прыдатны. Я ж тады, аднак, не разгубіўся, не раскіс, пачаў энергічна дзейнічаць: уладкаваўся на працу, паступіў на падрыхтоўчыя курсы ў педінстытут у Мінску. Вучыўся на курсах і адначасова здаваў экзамены на атэстат сталасці. Так што мне адначасова выдалі дакумент аб завяршэнні сярэдняй адукацыі і прынялі ў інстытут.

*— На гістарычны факультэт?*

— Гісторыя — маё позняе каханне. Я вырашыў заняцца сур'ёзна беларускай мовай і літаратурай. Дарэчы, яшчэ ў школе спрабаваў пісаць вершы, друкаваў іх у раённай, а пазней і рэспубліканскай газетах. Якія тады ў мяне былі вершы? Ура-патрыятычныя, вядома. Далейшыя перыпетыі лёсу — арышт бацькі і маё выключэнне са школы зрабілі пераварот у душы. І я не змог ужо пісаць вершы. Праўда, літаратурнай працай пазней я ўсё ж заняўся. Быў гэта 1948

(Працяг на 3-й стар.).

**«— Для фронта і яго актыўных прыхільнікаў значна ўскладнілася работа. Раней як было: сцяг, што, дарэчы, быў яшчэ і пад забаронай, узяў у рукі і ўжо ты — амаль што герой. А калі яшчэ і горлам можаш узяць — то барацьбіт. Цяпер зусім усё па-іншаму. Нацыянальная сімволіка, сцягі, прэса — дазволена. Але балбатуноў народ ужо наслухаўся. Натуральна, патрэбна канструктыўная праца. Хаця і адбыўся пералом у масавай свядомасці ў адносінах да мовы, але, на жаль, нават у нас, у фронце, яе ведаюць кепска, яшчэ горш з культурай... У людзей не хапае ведаў, неабходных для ўсведамлення сябе беларусамі. Таму самы час заняцца асветай суайчыннікаў. Трэба распрацоўваць эканамічную праграму выхаду з крызісу. Бо крычаць: «Камуністаў далоў!» — найпрацейшая справа».**

*«БНФ: ДАЦЬ ЛЮДЗЯМ МАГЧЫМАСЦЬ ВЫБАРУ».* Стар. 2.

СПАДЧЫНА

# БЕЛАРУСКІЯ ПІСАНКІ

**31 сакавіка адсвяткавалі Вялікдзень каталікі, а 7 красавіка ўрачысты перазвон у цэрквах абвесціць, што настаў Вялікдзень і для хрысціян праваслаўнага веравызнання. На велікодным стале ў кожнага беларуса на самым відным месцы — гара маляваных яек. Такая традыцыя вядзецца з пакалення ў пакаленне.**

Прыкметны рост цікавасці да багатай, але нярэдка занядбанай культурнай спадчыны беларускага народа, характэрны для апошняга часу, адкрывае, вяртае з небыцця многія адметныя яе старонкі. Гэта ж можна сказаць і пра такі цікавы, глыбока традыцыйны, але практычна забыты від народнага мастацкага роспісу, якім з'яўляецца дэкараванне велікодных яек-пісанак (крашанак, маляванак).

У той час, як нашы суседзі — літоўцы, украінцы, палякі — сабралі мнагатысячныя калекцыі пісанак, прысвяцілі ім шматлікія працы, пра беларускія пісанкі да апошняга часу амаль нічога не было вядома. Музеі рэспублікі іх не збіралі, не захоўваюцца яны і ў народным побыце. Таму знайсці старыя ўзоры практычна немагчыма. Даводзіцца шукаць майстроў, якія памятаюць сакрэты гэтага амаль забытага на Беларусі мастацтва, прасіць іх узнавіць колішнія ўзоры ці хоць падзяліцца вуснымі здагадкамі.

Традыцыя ўзорыстага аздаблення яек мае даўнюю гісторыю. Гэты від мастацтва бярэ вытокі ў часах язычніцтва, калі яйка ўвасабляла народныя ўяўленні пра творчыя, жыццёвыя сілы прыроды. Старажытныя славяне ўжывалі курыныя яйкі ў вясновых абрадах як сімвал абуджэння прыроды пасля зімовага сну, сведчанне чалавечага дабрабыту і згоды. У прыватнасці, у беларусаў вы-

(Заканчэнне на 8-й стар.).



НЯЎМОЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА

## ЯК ЖЫВУЦЬ У СТАЛІЦЫ

**Згодна з разлікам эканамістаў, сёння пражытачны мінімум на аднаго чалавека ў месяц складае не менш як 125 рублёў. 46 працэнтаў апытаных сямей жывуць за гэтай рысай, прычым 23 працэнты з іх маюць даход на члена сям'і да 80 рублёў. І толькі 3 працэнты лічаць, што могуць сабе ні ў чым не адмаўляць, цэны для іх не маюць рашаючага значэння — быў бы тавар. Гэта азначае, што далейшае павышэнне цэн на тавары, паслугі пры стрымліванні даходаў насельніцтва можа прывесці да непрадказальных сацыяльна-эканамічных вынікаў.**

**Такая рэальная карціна жыцця мінчан, атрыманая ў выніку сацыялагічных даследаванняў, праведзеных Мінскім гарадскім Саветам. Толькі 23 працэнты апытаных указалі на адсутнасць праблем з жылой плошчай. Але пры гэтым толькі 3 працэнты гатовы да будаўніцтва кааператыўнай кватэры і 2 працэнты — купіць кватэру ў дзяржавы. Мяркуючы па адказах маладых бацькоў, 64 працэнты жывуць за рысай пражытачнага мінімуму, гэта значыць маюць даход менш за 120 рублёў у месяц на аднаго чалавека. 65 працэнтаў сямей ледзь зводзяць канцы з канцамі, нярэдка пазычаюць грошы.**

ВЯРТАННЕ ДА ПАСРЭДНІЦТВА

## ТАВАРНАЯ БІРЖА

**Некалі па ўсёй Расіі дзейнічала больш за 100 таварных біржаў, а ў Беларусі яны меліся ў Мінску і Магілёве. Цяпер іх вопыт, напэўна, спатрэбіўся б тым, хто заклапочаны стварэннем першай Беларускай таварнай біржы. Нядаўна адбыўся ўстаноўчы сход, утвораны аргкамітэт па арганізацыі біржы. Распрацаваны яе канцэпцыя і статут. Таварная біржа павінна стаць зонай свабоднага гандлю з выкарыстаннем прынцыпаў свабоднай канкурэнцыі і рыначнага цэнаўтварэння. Брокерскія паслугі на біржы будуць аказвацца любым прадпрыемствам, арганізацыям рэспублікі і краіны на паявых асновах незалежна ад форм уласнасці, падпарадкаванасці.**

**На таварнай біржы на пачатковым этапе намечана ажыццяўляць таксама бартэрныя здзелкі, аўкцыённы і кірмашовы гандаль. У адным комплексе з біржай будзе працаваць пастаянна дзеючы аптовы кірмаш.**

РЭФЕРЭНДУМ

## ВЫБАР ЗРОБЛЕНЫ

**Абнародавана паведамленне Цэнтральнай ...місіі рэферэндуму СССР аб выніках усенароднага галасавання ў краіне 17 сакавіка.**

**Па Саюзу ў цэлым у галасаванні прыняло ўдзел 148 574 606 чалавек, або роўна 80 працэнтаў ад маючых права голасу. На пытанне «т адказалі 76,4 працэнта, далі адмоўны адказ 2 працэнта.**

**Найбольшая актыўнасць была праяўлена ў рэспубліках Сярэдняй Азіі, дзе галасавала ад 92,9 (Кіргізія) да 97,7 працэнта ў Туркменіі, на гэтыя ж рэгіёны прыпадае і найбольшая колькасць людзей, якія далі станоўчы адказ на пытанні рэферэндуму.**

**Такім чынам, гаворыцца ў паведамленні камісіі, большасць грамадзян краіны выказалася за неабходнасць захавання Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як абноўленай федэрацыі.**

ДЛЯ ФЕРМЕРАЎ

## ЛІЛІПУТ У СЯМ'І ГУЛІВЕРАЎ

**Беларускі аўтазавод у Жодзіне, вядомы ва ўсім свеце сваімі цяжкавозамі, магчыма, неўзабаве стане выпрабляць і адну з самых маленькіх самарухомых машын — грузавы мотаролер.**

**Навінка будзе даспадобы дачнікам і фермерам, таму што апрача перавозкі невялікіх грузаў, здольная і араць, баранаваць, і г. д. Умеранай бачыцца і цана — каля дзвюх тысяч рублёў, хаця якой яна акажацца да моманту серыйнай вытворчасці, сёння не скажа, зразумела, ніхто. У гэтым годзе мяркуецца выпусціць першыя дзесяць пробных экземпляраў грузавых мотаролераў.**

СУМНЫ РАКУРС




**Рэдкім экспанатам можа неўзабаве стаць любімая цацка дзятвы «Баскетбол». Прычына — адсутнасць сыравіны. Не падумайце, што прадпрыемствы хіміі перасталі выпускаць неабходны для вытворчасці «Баскетбола» полістырол. Ды толькі, як гаворыцца, не па Сеньку шапка. Гомельскі завод радыётэхналагічнага абсталявання можа заплаціць за кілаграм сыравіны 70 капеек, кааператары ж — 3—4 рублі. Ды і самім гамяльчанам, якія пачалі ў сувязі з канверсіяй выраб тавараў для народа, больш выгадна з сыравіны, набытай з такой цяжкасцю, вырабіць, напрыклад, два аўтамабільныя люстэркі «Палессе» коштам 60 рублёў кожнае, чым адну гульню «Баскетбол» за 14.**

**Такая вось арыфметыка дарослых. Толькі як растлумачыць яе малым, у якіх становіцца ўсё мен... любімых цацак!**

**НА ЗДЫМКУ: рукамі не чапаць... Цацкі, якія ...тка стануць музейнай рэдкасцю.**

*«Я галасаваў за Саюз. На тое ёсць шэраг прычын. Першае. Беларускі народ гістары... на бліжэй за ўсё да рускага. У наш бур... век цяжка застацца кошкай, якая гуляе сама па сабе.*

*Другое. Развал Саюза — гэта развал этнічных сувязей, гэта мільёны раздзеленых сем'яў, што створыць дыскамфорт практычна для ўсяго народа.*

*Трэцяе. Без дапамогі ўсіх рэспублік і сусветнага супольніцтва нам не справіцца з праблемай ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.*

*І нарэшце, апошняе — можа, асноўнае. Я не веру ў тое, што «цэнтр» можа дапусціць выхад нашай рэспублікі з Саюза. Пры любых выніках галасавання. Дарэчы, гэтаму ёсць прыклады ў іншых рэгіёнах. Значыць, перамога на рэферэндуме сіл, якія стаяць за выхад з Саюза, магла б уцягнуць рэспубліку ў новую хвалю бедстваў, аж да ваеннай канфрантацыі, пераваротаў і г. д. Далібог, не варта з-за амбіцыёзных мэт рызыкаваць лёсам народа...»*

*(Б. САВІЦКІ, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па экалогіі і рацыянальнаму выкарыстанню прыродных рэсурсаў).*

АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАРЫЙ

# БНФ: ДАЦЬ ЛЮДЗЯМ МАГЧЫМАСЦЬ ВЫБАРУ

Як мы ўжо паведамлялі, 23—24 сакавіка ў Мінску прайшоў другі з'езд Беларускага народнага фронта «Адраджэнне». З самай раніцы ў Палацы культуры тонкасуконнага камбіната пачалі збірацца дэлегаты і госці, шматлікія прадстаўнікі прэсы. Зразумела, што гэта падзея выклікала немалы інтарэс у журналістаў, якія за два гады існавання руху зламалі нямала пёр'яў, асвятляючы яго асобныя акцыі і каменціруючы праграмныя заявы. Яшчэ ва ўсіх на памяці мітынгі і дэманстрацыі, наладжаныя фронтам, якія парушылі, здавалася б, непарушны спакой у рэспубліцы, канфлікты з мясцовымі органамі Савецкай улады, высвятленні на старонках газет і часопісаў узаемаадносінаў з партапаратам і яго ідэолагамі.

Два гады — тэрмін у прынцыпе невялікі. За гэты час БНФ заваяваў сабе рэпутацыю прыхільніка радыкальных змен у грамадстве, апазіцыйнай існуючаму грамадскаму ладу палітычнай сілы.

Ад супрацоўніцтва з лепшымі прадстаўнікамі кампартыі БНФ прыйшоў да поўнай канфрантацыі з ёю. На рахунку руху, як сказаў на з'ездзе старшыня Сойму БНФ Зянон Пазняк, нямала значных спраў. Фронт прабіў мур маўчання вакол Чарнобыля і ажыццяўляе дапамогу яго ахвярам. Створана і паспяхова дзейнічае апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце БССР, дэмакратычныя фракцыі ў Саветах усіх узроўняў прымаюць самы непасрэдны ўдзел у кіраўніцтве народнай гаспадаркай, асветай і культурай. Дзякуючы дзейнасці апазіцыі БНФ у парламенце, ім была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце. (Пры ўсім пры гэтым БНФ дасюль не зарэгістраваны, як арганізацыя).

Але ж жыццё не стаіць на месцы. Адна за адной у рэспубліцы з'яўляюцца новыя палітычныя партыі — нацыянал-дэмакратычная, сялянская, адрадзілася сацыял-дэмакратычная Грамада... Катастрафічна пагаршаецца эканамічнае становішча народа. Расце напружанасць у раёнах, якія пацярпелі ад чарнобыльскага выбуху, выклікае трывогу экалагічная абстаноўка. «Настаў вырашальны час у гісторыі нашае Бацькаўшчыны, — звярнуўся да прысутных на з'ездзе БНФ з праграмнай заявай Зянон Пазняк. — Ці быць дэмакратычнай незалежнай Беларусі, ці быць беларускаму народу — вызначаецца зараз». Аналізуючы дзейнасць БНФ за прайшоўшы перыяд, З. Пазняк канстатаваў, што рух у сілу розных прычын не здолеў зрабіцца масавым і ўсеагульным. Прычына, на яго погляд, у тым, што ў народзе амаль страчана пачуццё нацыянальнай годнасці, згублены духоўныя сувязі і ідэалы. Улічваючы, што ў цяперашняй сітуацыі ў рэспубліцы ўвогуле ніякі рух не можа стаць масавым, трэба, лічыць ён, скарэкціраваць праграму дзейнасці БНФ па кансалідацыі нацыі, бо без гэтага няма гарантыі выжывання Беларусі ў надзвычайных геапалітычных, этнамоўных, эканамічных варунках, без гэтага недасягальная ніякая свабода. «У нас свой шлях да свабоды, які патрабуе цярплівасці і абачлівасці, **трэба даць магчымасць людзям самім выбраць.** І калі мы раней асноўную ўвагу ўдзялялі палітыцы, то цяпер будзем — асветніцтву, культуры, друку».

Зыходзячы з новых грамадска-палітычных умоў і нацыянальна-культурных варункаў у Беларусі, на з'ездзе было абвешчана, што БНФ мяркуе існаваць у далейшым як канфедэрацыя розных партый. Нягледзячы на сваё цалкам адмоўнае стаўленне да Камуністычнай партыі, якую лічыць злачынцам, БНФ не выключае, між тым, магчымасці супрацоўніцтва з асобнымі камуністамі, а таксама з беспартыйнымі грамадзянамі, грамадскімі суполкамі і аб'яднаннямі, якія падтрымліваюць праграму БНФ і яго статут.

У перапынку работы з'езда давялося пагутарыць з членам Сойма, сакратаром Управы БНФ **Віктарам ІВАШКЕВІЧАМ.**

— Для БНФ і яго актыўных прыхільнікаў значна ўскладнілася работа. Раней як было: сцяг, што, дарэчы, быў яшчэ і пад забаронай, узяў у рукі і ўжо ты — амаль што герой. А калі яшчэ і горлам можаш узяць — то барацьбіт. Цяпер зусім усё па-іншаму. Нацыянальная сімволіка, сцягі, прэса — дазволена. Але балбатуноў народ ужо наслухаўся. Натуральна, патрэбна канструктыўная праца. Хаця і адбыўся пералом у масавай свядомасці ў адносінах да мовы, але, на жаль, нават у нас, у фронце, яе ведаюць кепска, яшчэ горш з культурай... У людзей не хапае ведаў, неабходных для ўсведамлення сябе беларусамі. Таму самы час заняцца асветай суайчыннікаў. Трэба распрацоўваць эканамічную праграму выхаду з крызісу. Бо крычаць: «Камуністаў далоў!» — найпрасцейшая справа.

Нямала канструктыўных выступленняў і дзелавых прапаноў прагучала на з'ездзе БНФ. Між іншым, падняўся на трыбуну і малады камуніст, супрацоўнік апарату ЦК КПБ, які звярнуўся да прысутных не з нападкамі і абвінавачваннямі, а з прапановамі аб супрацоўніцтве. Яго не захацелі слухаць. А можа, варта было б? Варта было б, будуючы новае дэмакратычнае грамадства, быць больш дэмакратычнымі і лаяльнымі. Нелаяльныя бальшавікі, змагаючыся за ўладу, паступова знішчылі эсэраў і меншавікоў. Што з гэтага атрымалася — гісторыі ўжо вядома.

І ўсё ж такі неяк лягчэй стала дыхаць пасля з'езда, пасля сустрэч з яго дэлегатамі. Якая-ніякая, а падзея: другі з'езд БНФ праходзіў легальна, без апекі з боку афіцыйных савецкіх улад. Даволі спакойна, без залішніх эмацыянальных усплескаў і палітычнай экзальтацыі адбывалася абмеркаванне праграмы руху і выступленні прамоўцаў. Толькі вытрымка і мудрасць дапамогуць нам, беларусам, у гэты цяжкі момант гісторыі знайсці ўзаемнае паразуменне і згоду, захаваць грамадскі мір.

ПРАФЕСІЙНАЯ АДУКАЦЫЯ



**Аграномаў, заатэхнікаў і механікаў сельскагаспадарчай вытворчасці рыхтуюць у Калінкавічах у Палескім саўгасе-тэхнікуме. Сёння тут атрымліваюць спецыяльнасць 980 сельскіх хлопцаў і дзяўчат. Дзевяноста працэнтаў выпускнікоў будуць працаваць у саўгасах і калгасах Гомельскай вобласці.**

**НА ЗДЫМКУ: практычныя заняткі ў выпускнога курса аграномаў праводзіць выкладчык Аляксандр АЛЯПКІН.**

# ЗБІРАЦЬ ЗЯРНЯТКА ДА ЗЯРНЯТКА

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

год. Я якраз пачаў выкладаць беларускую літаратуру ў Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце. У газеце «ЛіМ» быў змешчаны мой вялікі артыкул аб літаратурнай крытыцы ў часопісах «Полымя» і «Беларусь». Ён звярнуў на сябе ўвагу. Але ж той, хто паглядзіць яго сёння, адзначыць, што ў гэтым артыкуле ёсць цытаты з «прац» тагачаснага ідэолага Жданава. Тады без гэтага матэрыял проста не быў бы надрукаваны. Прыгадаю яшчэ выпадак з артыкуламі, прысвечанымі 70-годдзю Янкі Купалы, якія я друкаваў у маладзечанскай абласной газеце. Тры артыкулы прысвячаліся дарэвалюцыйнаму перыяду творчасці песняра і тры — савецкаму. Дык вось што адбылося з адным з іх, дзе пісалася пра 30-я гады. Вядома, і ў гэты перыяд у Купалы былі выдатныя вершы, ляўкоўскі цыкл, напрыклад. Але ў той жа час і многа вершаў, што ўслаўлялі Сталіна, партыю. У артыкуле я ні слова не сказаў пра гэтыя опусы. І аднойчы ноччу мяне будзяць, клічуць да тэлефона. Кажуць: «У вас жа нічога няма пра Сталіна. Гэта немагчыма!» Я тады прыгадаў пару радкоў, іх адразу і ўставілі. Дзякуй богу, што так абышлося! Гэта ж быў яшчэ 1952 год! І каб у газеце ішла не серыя, а адзін матэрыял, то яго проста выкінулі б. Ды і са мной магло быць значна горш.

— *Літаратурную працу вы даволі паспяхова сумяшчалі з педагагічнай. Наколькі я ведаю, вам давялося настаўнічаць у Заходняй Беларусі, потым у эвакуацыі ў час вайны ў Мардовіі, у спаленым фашыстамі Суражы, у Маладзечне... Той, хто працаваў выкладчыкам, мусіць, ведае, якая гэта цяжкая, знясільваючая праца. А між тым, у вас была рэальная магчымасць зрабіць сабе палёгку. Пасля заканчэння аспірантуры і абароны кандыдацкай дысертацыі можна было спакойна займацца навукай, пісаць доктарскую... Чаму ўсё ж такі вы адмовіліся ад гэтага шляху?*

— Так, я сапраўды быў прыняты ў аспірантуру пасля заканчэння інстытута. Паважаныя педагогі вырашылі, што мне трэба займацца мовазнаўствам, нават не папытаўшыся, чаго хачу я. Толькі на падставе таго, што я некалькі семінарскіх работ напісаў па Маякоўскаму — аналіз лексікі. Нідзе не спісваў, зрабіў іх самастойна, што адразу было і заўважана. І нават здзівіла ўсіх. Вядома, студэнт я быў не зялёны, меў ужо такі-сякі вопыт. Я выказаў пажаданне рабіць навуковую работу па гісторыі беларускай літаратурнай мовы XIX стагоддзя. Мне паабяцалі. А як дайшло да справы, то кажуць, маўляў, у вас неактуальная такая тэма, а трэба заняцца даследаваннем знакамітых прыназоўнікаў або дыялектыкі. Я кажу, што мяне гэта не цікавіць. Неўзабаве «непаслухмянаму» аспіранту растлумачылі, што не трэба высоўвацца, а галоўнае— слухацца і абараніцца.

Неяк мне тое не спадабалася. Гэтымі казённымі тэмамі я мог бы ў прынцыпе займацца. Але ж падумаў: ці хопіць тады зроку на іншае? І кінуў тую аспірантуру.

— *А што менавіта падштурхнула вас да гісторыі?*

— Гісторыяй я заўсёды цікавіўся. І да вайны яшчэ. Увогуле нельга ставіць нейкай сцяны паміж філалогіяй і гісторыяй. Але ж сапраўды быў адзін такі выпадак, з якога, прынамсі, і пачаўся мой «гістарычны сверб». Пасля вызвалення Дзяржынска ад фашыстаў мяне прызначылі на працу завучам той самай школы, адкуль выключылі ў 1937 годзе. Настаўнікаў не хапала, і мне нярэдка даводзілася замяняць гісторыка. Аднойчы трэба было выкладаць тэму: «Татарскае нашэсце і ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага». Рыхтуюся да ўрока. Чытаю: татары захапілі Разань, потым Уладзімір, далей — Кіеў, Казельск... Усё падрабязна, ясна. А пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага: «Літоўскі князь Міндоўг аб'яднаў літоўскія землі, захапіў Чорную Русь і гэты галоўны горад Чорнай Русі (Навагародак.—Аўт.) зрабіў сваёй сталіцай, а пасля стаў завачаваць заходнерускія землі, якія былі аслаблены міжусобнай вайной». І ўсё. Многае тады здалося незразумелым. Чаму князь прыйшоў з-пад Вільні і ў чужой зямлі зрабіў сваю сталіцу? Вядома, займацца такім пытаннем не было магчымасці, але ў маёй свядомасці гэты факт моцна засеў. З'явілася падазрэнне, што нешта тут не тое. Але толькі праз многа гадоў я змог разабрацца ў гэтай заблытанай інфармацыі. Дзеля гэтага мусіў развітацца з педагагічнай працай. Тым больш, што расло адчуванне неэфектыўнасці сваёй работы. Ды і якая магла быць эфектыўнасць, калі падрастала пакаленне, цалкам пазбаўленае гістарычных ведаў пра сваю Бацькаўшчыну, калі ўсё больш і больш людзей пачалі саромецца сваёй «вясковай» мовы, грэбаваць ёю. Нават асобнага курса гісторыі Беларусі не было ў школе. Некаторыя звесткі ўпляталіся ў агульны курс гісторыі СССР. І толькі ў 10-м класе, калі вучні рыхтаваліся да экзаменаў на атэстат сталасці, настаўнік ім тлумачыў, як трэба адказваць на 4-5 пытанняў, што датычыліся нашай гісторыі.

І ў народзе, ведаеце, сталі фарміравацца зусім скажоныя ўяўленні пра нашу гісторыю, расло нейкае пачуццё непаўнацэннасці. Пачну я, скажам, расказваць пра нашу гісторыю, пра полацкіх князёў людзям. Яны ж мне: «Кінь ты гаварыць пра нейкую там гісторыю Беларусі, ніякай Беларусі не было, ніякага цара беларускага не было». Мне цяжка было бачыць гэту катастрафічную для нацыі сітуацыю. Уявіце, у якім прыніжаным стане апынуўся народ, пазбаўлены гісторыі. Вядома, самы страшэнны тэзіс, які знішчыў усю нашу гісторыю, гэта тэзіс аб бездзяржаўнасці Беларусі. Маўляў, дзяржавай беларусаў ашчаслівілі толькі ў 1919 годзе. А да гэтага былі заваяваны Кіевам, пасля Літвой, пасля Польшчай, а пасля вызвалены Расіяй.

Па стану здароўя я ў канцы 50-х пайшоў на пенсію. І засеў за вывучэнне летапісаў і хронік.

— *Беларускасць беларуса сёння ў грамадстве становіцца ўжо патроху прэстыжнай, нават прыносіць дывідэнды. А як да вашай беларускасці ставіліся ў грамадстве тады, калі страх і боязь нядаўніх рэпрэсій жылі яшчэ ў кожнай душы, у кожнай сям'і, а прынцып «перакоўкі» непаслухмяных у спецлагерах дзе-нідзе яшчэ дзейнічаў?*

— Мая беларускасць рэзала вочы ўладам на працягу доўгага часу. Я ж заўсёды гаварыў па-беларуску. Думаў таксама па-беларуску. Раскажу вам такі выпадак. У 1966 годзе начальнік Маладзечанскага камітэта дзяржаўнай бяспекі Іваноў выступаў на нейкай нарадзе агітатараў і папярэджваў слухачоў аб пільнасці, аб ворагах. Сказаў таксама, што і ў іх на Маладзечаншчыне ёсць такое «живое ископаемое» — Мікола Ермаловіч. Гэта ж па яго панац-

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# 73-я ЎГОДКІ БНР У МІНСКУ









**Яшчэ ў мінулым годзе адзначыць угодкі БНР у сталіцы Беларусі было даволі рызыкоўнай справай. Хаця смельчакам і не пагражала ў такім выпадку суровае пакаранне, але ўсялякіх непрыемнасцей хапіла б. Афіцыйныя савецкія ўлады адназначна адмоўна ставіліся і ставяцца да самога факта існавання ў нашай гісторыі БНР, якая была абвешчана 25 сакавіка 1918 года ва ўмовах акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі. Але ж гісторыя народа ёсць яго гісторыя. І не ўсё ў ёй проста і адназначна. Нездарма ж гісторыя БНР і цяпер прыцягвае ўвагу грамадзянцаў. На думку адных, толькі з абвяшчэння БНР пачынаецца сапраўдная незалежнасць беларускага народа, у той час як утварэнне БССР нібыта прынесена з Савецкай Расіі на штыках Чырвонай Арміі. Другія лічаць, што працэс утварэння беларускай нацыянальнай дзяржавы нібыта складаецца з двух этапаў: абвяшчэнне БНР—першы этап і ўтварэнне БССР — другі.**

**Як бы там ні было, але спроба дзеячаў нашай культуры, нацыянальна-вызваленчага руху ў тых найскладанейшых варунках любым шляхам дасягнуць самавызначэння беларускага народа і ўтварэння нацыянальнай дзяржавы выклікаюць цікаўнасць і жаданне разабрацца ва ўсім самастойна.**

**Сёлета ўпершыню за доўгія гады, не хаваючыся, з бел-чырвона-белымі сцягамі і нацыянальнымі сімваламі сабраліся ў Мінску тыя, хто пажадаў адзначыць 73-я ўгодкі БНР. У Траецкім прадмесці з гэтай нагоды 24 сакавіка было наладжана гулянне, дзе моладзь спявала песні і чытала вершы. А 25 сакавіка ў Доме літаратара прайшла ўрачыстая вечарына «Крыж волі», у якой узялі ўдзел музыканты, барды, спевакі.**

**Т. НІКІЦІНА.**

**НА ЗДЫМКАХ: старэйшы беларускі паэт С. НОВІК-ПЯЮН на свяце ў Доме літаратара; гулянне ў Траецкім прадмесці; усмешка звычайна сурова-стрыманага лідэра БНФ Зянона ПАЗНЯКА: ці не ад таго, што ўпершыню адзначаюцца ўгодкі БНР!**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

# The Origin of Byelorussians

Some Byelorussian scientists (G. Shtykhov, N. Yermalovich and others) are not only calling into question the existence of this ancient Russian national community but also the well-known fact that Kievan Rus was the cradle of three East Slav peoples—Russians, Ukrainians and Byelorussians. Naturally, we can argue about the extent to which the ancient Russian people were consolidated and the degree to which this process was completed, but there are no grounds for ignoring the existence of the East Slav community in Kievan Rus with its political foundation, common faith, cultural-linguistic affinity and economic activity characteristic of a feudal society.

The first signs of the development of a nationality appear during the transition from the primitive communal system to feudal society. Among East Slavs (forefathers of the Russian, Ukrainian and Byelorussian peoples) this process developed on the eve of the formation of Kievan Rus which in the 8th and 9th centuries united the tribal unions of Polyane, Severyane, Drevlyane, Volhynians, Dregovichi, Radimichi, Krivichi, Vyatichi, Slovenye and others into one state. At that time, the tribal organization of East Slavs gave way to territorial organization with the formation of principalities of the early feudal type.

In the 7th and 8th centuries the territory of modern Byelorussia was settled by the East Slav tribes of Krivichi, Dregovichi, Radimichi and in the south partly by Severyane and Volhynians (Buzhane, Duleby). It covered the basins of the upper reaches of the Dnieper, the Western Dvina, the Sozh, the Pripyat, the Neman and partly covered the Western Bug. The biggest state entity on the territory of Byelorussia was the Polotsk principality formed on the territory of the Dnieper and Dvina Krivichi (Polochane) and northern Dregovichi.

The growth of feudalism in Kievan Rus and the emergence of more and more towns was accompanied by the rise and consolidation of many independent principalities— **Turov**, Pinsk, Berestei, Novogrudok and others. In the 11th and 12th centuries the Polotsk principality collapsed, giving rise to the Vitebsk, Minsk, Orsha, Logoisk, Zaslavl and other feudal principalities.

The population of all lands in Kievan Rus was known under the common ethnica of Rusy, Rusiny, Rusichi (from the name of Rus—Kievan Rus). These ethnica stuck and spread universally after the baptism of Rus in the 10th century. The Orthodox population of Kievan Rus saw themselves as people of Russian faith. Thus the ethnic and confessional consciousness merged in all lands of the ancient Russian state. The development of the common ethnic stock was intensified by such important factors as the identity of basic components of culture, the language and, to a certain extent, also the economic life of the East Slavs.

Kievan Rus thus became the cradle of the East Slav ethnic community justifiably designated as the ancient Russian nationality.

The centrifugal forces generated by feudal fragmentation weakened the ancient Russian state which could not stand up to the Tatar-Mongol invasion. In the second half of the 13th century its Western part was incorporated into the Grand Duchy of Lithuania.

After the disintegration of the ancient Russian ethnic community three independent nationalities were formed, namely, the Russians, Byelorussians and Ukrainians, which developed in the period between the late 13th century and the 16th century in different parts of the ancient Russian state.

The relatively high economic and cultural level of the East Slav lands in the Grand Duchy of Lithuania led to their autonomy in the initial period. This factor played a positive role in the formation of the Byelorussian nationality. An important factor in this development was Никитенко. Гол. Р. чaafssé hess the ancient Byelorussian language which was the state language of the Duchy almost until the very end of the 17th century. The compact territorial settlement of the East Slav (Byelorussian) ethnic community in the Grand Duchy of Lithuania, gradual integration of the local markets, a common national self-identity, language, culture, faith and the development of economic and cultural ties were all factors influencing the rise in the period from the end of the 13th century to the 16th century of the Byelorussian nationality with its specific economic and social organization, material and spiritual culture, self-awareness, language and traditions. The development of ethnic features peculiar to Byelorussians and their culture was determined by the traditidns of the ancient Russian nationality (its Western part) and also by the impact of the ethnic, social and confessional situations, in the Grand Duchy of Lithuania and, later, Rzecz Pospolita.

The Byelorussian lands incorporated into the Duchy got their own names (r 'y derived from the word ' ). The Vitebsk gubernia and the north-east of the Mogilev gubernia became known as Belaya (White) Rus, a greater part of the Grodno gubernia anr 'he Western part of the Minsl ›ernia were referred to as Cheriiaya (Black) Rus in historical chronicles and southern woods and marshy plain became known as Polesye. The etymology of the last designation is clear. As for the terms "Belaya Rus" and "Chernaya Rus", different sources interpret them differently, depending on their political and religious status. Belaya Rus means a free independent land. Similar designations were given to the parts of Rus enjoying a larger measure of independence vis-à-vis the Tatars (Golden Horde), as, for example, the Rostov-Suzdal, Kiev, Moscov, Smolensk and some other parts of Rus in the 13th-15th centuries. Referring to Byelorussia, this name was most often used in the 15th-18th centuries and it came to stay in the second half of the 18th and the early 20th century. The term "Chernaya Rus" appeared earlier (14th century) and was applied to the lands which became dependent on the Grand Duchy of Lithuania back in the 13th century. It is therefore right to say that the north-eastern part of Byelorussia, a free land less dependent on the Lithuanian princes, was called Belaya Rus as distinct from Chernaya Rus.

Some researchers believe that the name of Belaya Rus could be applied to the lands which adopted Christianity at an earlier date, while the lands of Chernaya Rus remained pagan.

Thus the term "Belaya Rus" was introduced from without but took root in Byelorussia and in the 19th and early 20th century it gradually extended to the entire Byelorussian ethnic territory and the derived ethnicon "Byelorustsy", or "Byelorussy", became universally dominant in Byelorussia.

**Vasily BONDARCHIK,**
**Corresponding Member of the Byelorussian Academy of Sciences.**





**Picturesque corners of Minsk: the Troitsky suburb; the Komsomolsk Lake.**

*Photo of A. VALENTINOVA*

# A LIVING TRADITION OF THE APOSTOLIC ACTIVITIES

The country's literature devoted ' 'he legacy of the Saints Cyril and Methodi ,as been enriched by much serious research work, especially over the past decade. It should be noted, however, that these works are largely historical in essence and represent a rather cursory study of the brothers' missionary activity, which in effect ranks them among the apostels. This is accounted for by the fact that d ' a long period of time missionary activtiy , referred to as religious propaganda banned by the law.

Today, however, one can note with gratification that even though this law has not yet been formally repealed, the situation of the Orthodox church in our country has altered dramatically. And this process, needless to say, is closely linked with profound changes in relations between the church and the state. In building a law-governed society, the need to observe a fundamental principle of these relations—proclaiming the freedom of church—is being increasingly realized. Only having this freedom can the church accomplish its chief objective—that is, to increase its prestige in society and preach the Gospel.

It would not be an overstatement to say that at present the Byelorussian Orthodox Church has every opportunity to preach the Gospel to all people. In effect no obstacles are encountered either in registering new religious communities or in opening and restoring temples. The past two years in our republic have seen the registration of 150 new religious communities. The Spasso-Euphrosiny Monastery has opened in Polotsk and a Theological Seminary is run now at the Zhirovitsy Monastery. We are likewise hopeful that all these positive processes will be legally formalized in the law on the freedom of conscience to be adopted by the USSR Supreme Soviet.

But freedom acquired by the church makes it more responsible and faces it with serious problems. One of them is the revival of the church's overall mission, i. e., the behest of Lord Jesus Christ himself: "Go, then, to all peoples everywhere and make them my disciples: baptize them in the name of the Father, the Son, and the Holy Spirit..." (Matt, 28, 19). At present we are busy creating a network of Sunday schools attached to our temples. The school at the Minsk Cathedral already has over a hundred pupils. We are confronted with the acute task of spreading the Gospel and teaching it in our ecclesiastical schools as a separate discipline, as well as involving laymen who consider it to be their calling to pass the world of God on to others.

Thus, as I see it, the apostolic activities of Cyril and Methodius are not merely an historical event separated from us by eleven centuries. They were doubtlessly a major stage in the history of the Orthodox missionary tradition.

Analyzing the biography of the Saints Cyril and Methodius one can draw the general conclusion that, as a rule, the brothers carried out their mission according to Eastern Christian tradition and in keeping with the cultural and socio-economic standards of the development of enlightened peoples, as well as in their native tongue and in conformity with their way of thinking.

Thanks to the brothers' enlightening activity, all Slavonic peoples received access to the wealth of Christian culture and civilization. Their missionary efforts spurred the Slavs independent national development and cultural resurgence.

Today the main mission of our church in Byelorussia is to revive the belief of Byelorussian people in Jesus Christ, the symbol of the beginning of human society imbued with fraternal love and the spirit of true peaceableness. For belief in God is above any social division and national isolation.

The Synod of the Byelorussian Orthodox Church is presently putting much emphasis on missionary activity, which is the church's sacred duty.

We are exploring methods and means to coordinate our efforts in this area with other Christian communities in the republic, while observing their rights.

We know that the road of evangelization is not an easy one. But we are following it with confidence and hope, for it is brightly blazed by the Saints Cyril and Methodius.

**Metropolitan FILARET**
**of Minsk and Grodno,**
**Patriarchal Exarch**
**of the Byelorussia**

**THE MARC CHAGALL MUSEUM TO OPEN**

The Executive Committee of the Vitebsk City Soviet of People's Deputies has decided to raise funds to found the Marc Chagall Museum. A special bankaccount has been opened to which individual citizens, enterprises, institutions, cooperatives and other organizations can send their donations. Contributions in foreign currency are accepted by the Foreign Economic Bank at the following address: The Cultural Department of the Vitebsk City Executive Committee (for the Marc Chagall Museum), Minsk, Byelorussian SSR.

**Editor of the English Page E. MILOVANOVA**

Іван САВЕРЧАНКА

# КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА



57

Асабістая непрыязнасць Льва Сапегі да І. Кунцэвіча зусім не азначала, што канцлер змяніў свае адносіны да вуніяцкай царквы. Ён, як сведчыць змест усіх яго шматлікіх лістоў, клапаціўся найперш аб агульнагаспадарскіх інтарэсах Вялікага Княства, імкнучыся ўсё ж такі па мажлівасці вырашаць і рэлігійныя канфлікты мірным шляхам, зберагаючы закон. Так, калі ў лістападзе 1623 года віцебскія праваслаўныя па-зверску забілі Кунцэвіча, Леў Сапега, узначаліўшы камісарскі суд, пакараў злачынцаў па ўсёй строгасці закона: двум бурмістрам і 18 мяшчанам адсеклі галовы, 74 чалавекі ўцяклі ад следства і суда, але іх таксама чакала плаха. Маёмасць забойцаў канфіскавалі. Горад быў пазбаўлены ўсіх прывілеяў.

Толькі не дзеля таннай славы і папскай падзякі шчыраваў Леў Сапега. Вуніяцкая царква, па яго задуме, павінна была ратаваць насельнікаў Вялікага Княства ад духоўнага прыгнёту, стаць заслонам на шляху польскай ды маскоўскай экспансіі.

Слушнасць меркаванняў канцлера пацвердзіла гісторыя. Пачынаючы з сярэдзіны XVII стагоддзя, калі яшчэ больш узмацніліся працэсы паланізацыі велікакняжацкіх земляў, многія дзеячы беларускае культуры, што не прынялі вуніі, занялі, на жаль, прапольскія альбо, як Афанасій Філіповіч, Ігнат Іяўлевіч, а пазней Сімяон Полацкі, прамаскоўскія пазіцыі. Здаецца, толькі дзеячы вуніяцкае царквы на Беларусі, нават пасля спробы яе скасавання царскім урадам у XIX стагоддзі, працягвалі гаварыць з народам на яго мове.

58

XXIII

Прадчуванні Льва Сапегі спраўдзіліся. Нястрымнае жаданне Жыгімонта III Вазы набыць бацькаву карону прывяло да вайны са Швецыяй. Вялікае Княства чакала чарговае выпрабаванне.

Каб пазбавіць шведаў падтрымкі з боку Маскоўскай Русі ды пазбегнуць адначаснай вайны з дзвюма дзяржавамі, улады Рэчы Паспалітай восенню 1600 года накіравалі ў Маскву да Барыса Гадунова пасольства з мэтаю падпісаць «вечны мір». Адказную місію зноўку, як і ў 1584 годзе, узначаліў Леў Сапега, за плячыма якога цяпер меўся багаты дыпламатычны вопыт.

Надзелены Генеральным Вальным Соймам ды Жыгімонтам III надзвычайнымі паўнамоцтвамі, Леў Сапега 27 верасня 1600 года разам з Гальяшам Пельгрымоўскім, сакратаром Княства, Андрэем Варапаем, аршанскім земскім суддзёю, Янам Сапегам, віцебскім ваяводзічам, Станіславам Варшыцкім, варшаўскім кашталянам, ды дваранамі — Мікалаем Францкевічам, Пётрам Дуніным, Янам Бэруцкім і Янам Пасекам выехаў з Воршы ў маскоўскім накірунку.

Афіцыйны прыём Льва Сапегі Барысам Гадуновым і яго сынам Фёдарам адбыўся толькі 26 лістапада 1600 года, хаця рэчпаспалітае пасольства прыбыло ў Маскву 16 кастрычніка. Непасрэдныя перамовіны пачаліся яшчэ пазней на тыдзень.

На другой сесіі, што адкрылася чацвёртага снежня, Леў Сапега абвясціў свае ўмовы «вечнага міру» Рэчы Паспалітай з Маскоўс-

59

каю Руссю, якія ўключалі 24 артыкулы. Усе яны прыведзены ў «Дзённіку» Г. Пельгрымоўскага*. Канцлер Вялікага Княства, у прыватнасці, прапаноўваў наступнае: каралі польскія і вялікія князі літоўскія — з аднаго боку, ды князі маскоўскія разам з усімі рускімі баярамі — з другога, наперад павінны заўсёды быць у згодзе; калі вораг нападзе на адну з саюзных дзяржаў, то другая абавязана дапамагаць ёй; заключаць мір альбо, наадварот, аб'яўляць вайну трэцім краінам толькі пасля папярэдняга ўзаемнага ўзгаднення; набытыя падчас сумесных войнаў землі дзяліць пароўну; дазволіць народам абедзвюх дзяржаў свабодна перамяшчацца як на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, так і на землях Маскоўскай Русі; прадаставіць насельнікам Рэчы Паспалітай і Маскоўскае Русі права самім, добраахвотна выбіраць тую ці іншую веру; злодзеяў, уцекачоў і іншых злачынцаў вяртаць без затрымкі іх гаспадарам; трымаць на поўдні агульнае войска для абароны ад татараў і турак...

Менавіта вакол артыкулаў «вечнага міру» і распачаліся гарачыя дыскусіі Льва Сапегі з маскоўскімі дыпламатамі — Іванам Тацішча-

* «Дзённік» Г. Пельгрымоўскага, што напісаны вершамі, амаль поўнасцю надрукаваны А. Брукнерам у кн.: Biblioteka Warszawska: Pismo poświęcone naukom, sztukom i sprawom społecznym. Warszawa, t. I. S. 78-96, 254-275, 412-442. Урыўкі з празаічнага варыянту пададзены У. Трэмбіцкім у кн.: Poselstwo Lwa Sapiehy w roku 1600 do Moskwy, podług Dyaryusza Eljasza Pielgrzymowskiego, sekretarza poselstwa. Grodno, 1846.

60

вым, Стафанам і Іванам Гадуновымі, Міхаілам Абаленскім, Васілём Тацішчавым ды думным дзякам Апанасам Івановым.

Як і першы раз, перагаворы Льва Сапегі з рускімі баярамі праходзілі цяжка. У найбольш складанай сітуацыі канцлер апынуўся 18 лютага 1601 года, калі ў Маскву завіталі шведскія паслы Клаўсон і Гендэрсон, якіх знарок правезлі ў акружэнні ганаровага эскорта ля дома, дзе знаходзілася дэлегацыя Рэчы Паспалітай.

...гледзячы на разнастайныя перашкоды д... складанасці, што неаднаразова ўзнікалі падчас перагавораў, Леў Сапега ўсё-такі і на гэты раз здабыў перамогу. На пачатку 1602 года, пасля ўзаемнага рускага пасольства Міхаіла Глебавіча Салтыкова-Марозава за прысягай да Жыгімонта III, быў падпісаны 22-... мір з Маскоўскаю Руссю, вельмі не-...дны на той момант як Польшчы, так і Вялікаму Княству.

XXIV

Паспяховае завяршэнне Львом Сапегам перагавораў у Маскве развязала Жыгімонту III рукі для вайны за шведскую карону. Аднак жыхарам Беларусі гэтая новая бойня не прынесла нічога, апроч стратаў, цяжкага бярэма выдаткаў на вайсковыя патрэбы ды пакутаў ад польскіх жаўнераў, якія, не атрымаўшы ўзнагародаў за службу, пачалі рабаваць маёнткі беларускае шляхты.

Канцлер Вялікага Княства мусіў звяртацца да Жыгімонта III, каб ён тэрмінова загадаў

61

спыніць беззаконні польскага рыцарства, бо памеры шкоды, прычыненай імі, пагражалі гаспадарству разарэннем. Дэпутаты Галоўнага Вальнага Сойма Княства, што праходзіў у Слоніме ў студзені 1603 года, таксама не менш ультыматыўна патрабавалі ад уладаў Рэчы Паспалітай пакарання злачынцаў ды матэрыяльнай кампенсацыі тым, хто пацярпеў ад п'яных оргіяў палякаў.

Спыніць дзікую неўтаймаванасць польскіх жаўнераў на беларускіх землях Леў Сапега змог толькі абапіраючыся на велікакняжацкае ...йска.

XXV

Мір з Маскоўскаю Руссю, на жаль, быў нядоўгім. Летам 1604 года яго парушыў Ілжэ-...мітрый I. Заручыўшыся падтрымкай ваяво-... Юрыя Мнішака, ён абвясціў сябе «сап...раўдным царэвічам» і з атрадам беларускіх ды польскіх жаўнераў пайшоў на Маскву, каб здабыць карону рускага цара.

Скупыя гістарычныя звесткі, што захаваліся з таго часу, не даюць магчымасці адназначна і поўна адказаць на пытанне аб адносінах канцлера Вялікага Княства Льва Сапегі да самачыннага, здаецца, аніяк не ўзгодненага з ім кроку самазванца. Праўда, у сувязі з гэтым заслугоўвае ўвагі адна гіпатэтычная думка, што распаўсюджвалася ў рускай гістарычнай літаратуры XIX стагоддзя і якую згадвае У. Салаўёў у сваёй вядомай «Истории России» (М. 1960. Кн. IV. Т. 7—8. С. 403—405). Сутнасць яе ў тым, што як быццам бы якраз Леў Сапега пры сваім двары выхоўваў

62

юнака, якому ўвёў у вушы, нібыта ён — рускі царэвіч Дзмітрый, выратаваны лекарам Сімяонам ад забойцаў, падасланых да яго ў Вугліч у 1598 годзе Барысам Гадуновым. На карысць гэтае версіі выказваліся прынамсі тры аргументы. Па-першае, Ілжэдзмітрый I заявіў пра сябе як царэвічу ў маёнтку пана Вішнявецкага, з якім Леў Сапега меў сталыя зносіны. Па-другое, першым, хто «прызнаў царэвіча Дзмітрыя», быў менавіта слуга канцлера, нейкі Пятроўскі, ураджэнец Маскоўскай Русі. Нарэшце апошняе і можа самае галоўнае: канцлер Вялікага Княства пазней бясспрэчна займаўся падрыхтоўкай самазванцаў на маскоўскае царства і, што вельмі істотна, менавіта шляхам доўгай падрыхтоўкі юнакоў. Так, у 20-я гады XVII стагоддзя пры яго двары Афанасій Філіповіч вучыў яшчэ аднаго «царэвіча» рускай, польскай ды лацінскай мовам. А ім, як высветлілася пасля, аказаўся шляхціц-сірата Ян Луба, узяты Львом Сапегам на выхаванне і аб'яўлены «царэвічам» (кароль Жыгімонт III нават прызначыў канцлеру для ўтрымання будучага «цара» жалаванне памерам шэсць злотых на год).

Але ці дастаткова ўсіх прыведзеных доказаў, каб пагадзіцца з версіяй аб падрыхтоўцы Львом Сапегам самазванца Ілжэдзмітрыя I? Мусіць, усё ж такі не. Бо як, у адваротным выпадку, вытлумачыць той факт, што канцлер падчас Генеральнага Вальнага Сойму 1605 года асуджаў сумесна з маршалкам Княства Дарагастайскім і берасцейска-куяўскім ваяводам Ляшчынскім паход Ілжэдзмітрыя I

63

на Маскву? Ён і раней пісаў Юрыю Мнішаку аб незадаволенасці паноў-рады яго самавольствам і патрабаваў ад ваяводы, каб ён вярнуўся назад ды пакаяўся перад манархам. А мо Леў Сапега крыўдаваў, што першую скрыпку пры «царэвічу» іграе Мнішак, дачку якога Марыну пакахаў самазванец, а не ён, канцлер? Пытанняў, як бачна, значна болей, чымся адказаў. Застаецца, бадай, толькі занчыць: зносіны Льва Сапегі з Ілжэдзмітрыем I, як, дарэчы, і паходжанне апошняга,— гэта гістарычныя загадкі, раскрыццё якіх — справа будучыні.

XXVI

Застаючыся сынам сваёй эпохі, канцлер Вялікага Княства пры вырашэнні міжнародных праблемаў, на жаль, не грэбаваў выкарыстаннем сілы. Гэта, відаць, было непазбежна ў тыя часы, калі паўсюдна ў свеце наяўнасць шматлікага, добра ўзброенага і вышкаленага войска лічылася найлепшым з «аргументаў». Палітыка і мараль тады далёка не заўсёды ішлі поруч.

Так, 15 студзеня 1609 года Леў Сапега на варшаўскім Сойме першым выказаўся за тое, каб неадкладна распачаць вайну з Маскоўскаю Руссю, нягледзячы на мірны дагавор, падпісаны ім жа самім некалькі год назад.

Канцлер Вялікага Княства разлічваў на хуткі і лёгкі поспех, бо руская дзяржава перажывала на той момант найцяжэйшыя часы ў сваёй гісторыі. Змучаная казацкімі паўстаннямі ды змардаваная ў войнах з самазванца-

64

мі, яна, як ніколі, была аслабленай. Дастаткова прыгадаць толькі асобныя падзеі, што адбыліся ў Маскоўскай Русі за некалькі год перад тым. 20 чэрвеня 1605 года ў Маскву з трыумфам увайшоў Ілжэдзмітрый I, дзе наводзіў свае парадкі да 17 мая 1606 года, пакуль не быў забіты раз'юшаным натоўпам. Пасля яго рускі трон заняў Васіль Шуйскі (1606—1610), але да спакойных часоў было далёка, бо ў 1607 годзе зноўку на Беларусі, у Прапойску, аб'явіўся чарговы самазванец, беларус па паходжанні — Ілжэдзмітрый II, альбо, як яго пазней назвалі, — «тушынскі злодзей». У маі 1607 года Ілжэдзмітрый II пры падтрымцы беларускае шляхты, найперш, харугвы пана Будзілы з Мазыра ды корпуса Яна Сапегі, рушыў на Маскву і ўжо ў чэрвені заняў Тушына. На працягу восені 1607 года і ўсяго 1608 года паміж «тушынцамі», а фактычна, між беларускім рыцарствам ды царскімі войскамі вяліся няспынныя жорсткія баі. Менавіта гэтую сітуацыю і вырашыў скарыстаць Леў Сапега.

Летам 1609 года распачалася шырокая ваенная кампанія Рэчы Паспалітай супроць Маскоўскае Русі, на пачатку якой, у адпаведнасці з адмысловай задумаю канцлера, абвяшчалася, нібыта рэчпаспалітае войска ідзе на Ілжэдзмітрыя II, каб пакараць «тушынскага злодзея» і яго саўдзельнікаў за самавольствы ды парушэнне мірнага дагавора, існуючага між дзвюма дзяржавамі.

Працяг. Пачатак у №№ 7—13.

Янка БРЫЛЬ

# МУШТУК І ПАПКА

## МАЛЕНЬКАЯ САГА

Муштук — касцяны, ім ні зарэзацца, ні парэзацца нельга, таму яго ў вязня і не забралі. Выскрабсці на ім тую сакраментальную дату пасля таго, як той вязень зусім аслеп ад катаванняў, сам ён не мог. Выходзіць — або ён зрабіў гэта неўзабаве пасля арышту ў белацаркоўскай турме, або і раней, вярнуўшыся ад пракурора Вялікапалавецкага раёна, з гутаркі пра «шкодніцтва на рабоце», бо быў жа яшчэ два з палавінай месяцы дома. А магло быць і так, што па просьбе яго, асляплага, калі ад пераломy да смерці было яшчэ столькі дзён і начэй, гадзін і мінут для роздуму, успамінаў, адчаю, надзеі... хоць бы на лагер, можа, тады гэтую няхітрую гравіроўку мог зрабіць хто-небудзь з сяброў па камеры...

У Курапатах, у некалькіх правераных захаваннях, сярод мноства астанкаў не знойдзена ніводнага «рэчавага доказу з індывідуальнай адзнакай», на якім стаяла б прозвішча ці хоць імя ахвяры. Толькі на адной расчосцы, таксама касцяной, ёсць надпіс, таксама выскрабены нечым, на польскай мове:

Ciężkie są chwile więźnia. Minsk, 25.04.40. Myśl o was doprowadza mnie do rozpaczy.*

А на другім баку расчоскі:

26.IV.40. Rozpłakałem się — ciężki dzień.**

Тут свой падтэкст, які мяне, пры пэўным веданні Польшчы наогул, а тым больш палякаў у Заходняй Беларусі, хвалюе з іншымі здагадкамі ды меркаваннямі.

У Быкаўні, сярод знойдзеных імянных «вещдоков», чатырнаццаты па ліку — муштук. З прозвішчам, з ініцыяламі, з датай, але нічога на ім пра «цяжкія хвіліны», думкі пра родных, пра плач... Такое тут — зноў жа ў падтэксце. І ён, падтэкст гэты, не толькі ў лёсе гэтых двух, курапацкага паляка і быкаўнянскага беларуса, — усенародны ён, усясветны!..

Муштука, што цяпер затаіўся ў шуфлядзе майго пісьмовага стала, магло і не быць — ужо і знойдзенага, і абвешчанага ў друку. Нібыта падказаў мне хтосьці мудры — папрасіць у следчага аддаць рэліквію родным. Ён сказаў тады пра экспертызу, а пазней, калі мне муштук аддалі, растлумачыў па тэлефоне, у чым яна, экспертыза, заключалася б. Вельмі проста — дзеля таго, каб навукова ўдакладніць, што муштук сапраўды касцяны, яго спачатку трэба было б раскрышыць...

А так ён, сведка і катаванняў, і падзямельных стрэлаў, і начнога закопвання, і сам выйшаў з таго палітычнага пекла, і мяне ўжо двойчы — цераз ліловую, з мноствам наклеек, крыху зацапаную папку — уводзіў туды ж... уводзіў туды ж...

Ці вытрымаў бы я яшчэ і трэці раз? Выпісваю блакнотнае:

«Бывае так горка і цёмна ад тое папкі, што ўчора нават... праўда, упершыню падумалася: няхай бы лепш я, ужо адзін, апошні з сясцёр і братоў, застаўся лепш пры тым варыянце Валодзевага канца, які мы ведалі да знойдзенага муштука!.. Хоць «ведалі» не падыходзіць — толькі меркавалі...»

За пятнаццаць месяцаў, падораных муштуком і папкай, я многа чытаў блізкага майму болю, патрэбнага для маёй задумы. Турэмныя ды лагерныя ўспаміны тых людзей, што выжылі. Яны — **і нямногія** з ліку забітых ды замучаных, іх адначасна і **многа**, калі далічыць і тых, пра каго яны расказалі, а ўлічыўшы іх права і абавязак гаварыць і за тых, што самі ўжо нічога не скажуць, іх — вялікае **мноства.** Бо праўда іх — **найвялікшая.**

Гэтая праўда свяціла і мне, дапамагаючы ад свайго, сямейнага ісці шырэй. І тое, чым я хачу падсумаваць свае пошукі, свой роздум, мне цяжка дый і не трэба аддзяляць ад таго, што я ўзяў ад народжанай у пакутах праўды другіх людзей, ад іх вопыту, што мне дапамагала ў цяжкія хвіліны.

Справу чытаў я двойчы, з пакутлівай пільнасцю. Раіўся з двума юрыстамі, у Кіеве і ў Мінску. Па маёй просьбе, з ужо адасланай папкі, мне прыслалі ксеракопіі чатырох вырашальных дакументаў: з аднаго боку — выпіска з **пратакола** паседжання «тройкі» і з **акта** пра выкананне прысуду, а з другога боку — **заключэнне** па архіўна-следчай справе па абвінавачанні і **акрэсленне** ваеннага трыбунала,— прысуд і забойства, расследаванне і рэабілітацыя, яшчэ адна чалавечая гісторыя, заключаная ў векапомных датах: 1937—1956.

І шкодніцтва (артыкул 54-7 украінскага крымінальнага кодэкса), і шпіянаж (артыкул 54-6) юрыдычна палічаны поўнасцю бяздоказнымі. Так і падкрэслена: **«не нашло своего подтверждения».** Са спасылкамі на розныя архіўныя нумары і абрэвіятуры. А тое, што як між іншым, дадаткова, без якога-небудзь артыкула, ушчэмлена паміж тымі «вінамі» — служба ў белых і дэзерцірства ад чырвоных — пры разглядзе справы на рэабілітацыю праігнаравана зусім, не згадваецца аніяк...

Што ж застаецца?

Жахлівы махавік круціўся на ўсю няспынную сілу, жорны малолі, не буксуючы ў чалавечай крыві. І брату майму, як і многім, патрэбен быў **той**, хто штурхане пад махавік, у жорны, і **той** знайшоўся. Гэта мог быць і загадкавы М., яўрэй, і нехта рускі, украінец, беларус — у мярзотнікаў таксама ж ёсць свой няпісаны інтэрнацыянал. Імёны членаў яго з надзейнай сакрэтнасцю, відаць, наперад ахоўваючы сакрэты метадаў, схаваны недзе ў іншых папках, кажуць: з паметкай «агентурные сведения», і папкі тыя не паказваюць нават «у парадку выключэння». Ва ўспамінах людзей, якія цудам ацалелі ў жорнах «класавай барацьбы», мне двойчы сустрэлася такое акрэсленне «судоў» і «асобых нарад»,— судзілі не **за што,** а **дзеля чаго.** Чалавека трэба было знішчыць, камусьці гэта было патрэбна, і яно рабілася. З усёй каравасцю крывапжэрнага хамства, з тоўстымі белымі ніткамі юрыдычнага дылетанцтва, з магільнай [illegible]зданасцю падтэксту. Многа ўсялякіх варыянтаў у тым падтэксце, а вядома агульнае **адно** — такі быў **час** і **лад.**

Яшчэ два запісы з розных дзён.

Першы — зроблены адразу пасля другога чытання справы:

«...Душа мая зноў дакранулася да бездані жаху, ужо ў большым спакоі, аднак і зноў яна **смуткуе,** няхай сабе не **смяротна,** як у Валодзі было, але блізка да гэтага. Хрысту было лягчэй: ён жа і Бога-чалавек, і тры апосталы, найвярнейшыя з дванаццаці, былі пры ім. А брату майму не было каму сказаць у безвыходнасці чалавечай тугі: «Душа моя скорбит смертельно; побудьте здесь и бодрствуйте со мною...»

І другі запіс, пазнейшы:

«І зноў, і ўжо даўно не ўпершыню вяртаецца бачанне страшэнна-невымернай чалавечай крыўды і абразы. Ён працаваў сумленна, жыў сціпла, шчасліва ў сям'і, і вось яго бяруць, катуюць датуль, пакуль яму не стане абыякава, што перапісваць пад дыктоўку (тое «заявление»), што падпісваць, нібы нямогла старэчай рукой (тыя тры пратаколы), тады яшчэ паўгода — скатаванага да слепаты, зламанага, зганьбаванага — трымаюць за кратамі, каб потым завезці за сто з гакам кіламетраў, у галоўнае падзямелле, дзе ў рабочым парадку, на масавым канвееры застрэліць ва ўпор у скронь ці ў патыліцу, а затым механізавана, на транспартнай стужцы выкаціць у грузавік — ноччу! ноччу! — завезці далей за горад, у лес, і закапаць разам з мноствам таксама скатаваных, зламаных, зганьбаваных, у скронь ці ззаду застрэленых, навекі,— бо так і лічылі каты-следчыя, атлусцелыя «троечнікі» і радавыя забойцы,— навекі, наглуха закапаных у «праклятае народам» небыццё. Разам з усімі бездапаможнымі пратэстамі, заклікамі да справядлівасці, з мільённадушным адчаем: за што? у імя чаго?..»

Пры той жахлівай масавасці генацыду — у адным чалавечым лёсе няма нічога надзвычайнага. Апроч цуду з імянным муштуком, цуду — аднаго на сотні тысяч ці на мільёны. І мне так неабходна найясней убачыць, **як** расказаць пра гэта — пра звычайнасць і незвычайнасць, універсальнасць трагедыі, заключанай, як у маленечкай кроплі, у гісторыі аднoй чалавечай сям'і. На прыкладзе свайго мне лепш, а можа, і найлепш відно, як гэта жудасна — замучыць, забіць **невінаватага.** Думаючы пра мільёны, адзін бачыцца вельмі маленькім, у вялікай краіне, тым больш ва ўсім вялізным свеце гэта так мала — адзін. А ў сям'і, у душах родных гэта ж цэлы свет болю. А ў душы найраднейшай — у матчынай? Я памятаю, я чую зноў, як яна плакала начамі... Не ведаю, што адчуваў бы я як сын яго, як бацька, як шчыры друг. Я адчуваю сваё, як ледзь не па-сыноўняму малодшы брат. Так пазнаю, і яшчэ пазнаю свайго таямнічага, амаль зусім невядомага... Вось я чытаю пра допыты, пакуты, стойкасць і ламанне і ўвесь час міжволі думаю пра свайго. Ён трымаўся чатыры месяцы. Ён быў, як маці казала, «гарачы і горды», і гэта раз'юшвала катаў, яшчэ ўзмацняла яго і так невыносныя пакуты. Сам ён зламаўся? **Яго зламалі!** Як многіх, вельмі многіх... Гляджу на фота яго, адно з апошніх, **ужо,** як мне здаецца, **з тым** сумам у вачах, гляджу найменшы на найстарэйшага, цяпер старэйшы за яго на паўстагоддзя, і хочацца бацькавым любімым словам сказаць, і я гавару: «Голубчик мой!..» І плачу за ўсіх, за бацькоў, за сясцёр і братоў. І за Валю ягоную, нашу мілую Валю, якая плакала б цяпер найбольш...

«Віна» з пакутнікаў пераходзіць на **віну** — падкрэслена, без двукосся — на іхніх «суддзяў», на той час, на тую палітыку, аслепленасць, апантанасць, чуму, халеру... штосьці яшчэ горшае!.. І як ні многа я чытаў і слухаў пра той генацыд, не памятаю, каб сярод прычын, якія спрыялі яму, накіроўвалі яго, была названай яшчэ адна прычына, вельмі істотная, з найгалоўнейшых — **партыйная дысцыпліна,** што спараджала, натхняла, апраўдвала выканаўцаў...

У «Выпісцы з пратакола паседжання Тройкі», нібы незаўважна, сціпла, стаіць такая вышынская фраза: «В проведении шпионской деятельности сознался». І яна там, для «тройкі» — галоўнае. **Агавор** самога сябе, выбіты катаваннямі, быў для ахвяры не проста небяспечны, а смяротны. Канцоўка ў «заявлении», трафарэтна падыктаваная вязню, з тым «сознавшись чистосердечно прошу даровать мне жизнь и дать возможность исправиться» — гэта банальны інквізітарскі цынізм. Ужо само накіраванне следствам справы на «асобую нараду» азначала і суд, і прысуд адразу...

А быў жа яшчэ і **нагавор.** На ветэрынара Клісенку, таварыша па працы. Таксама выбіты катаваннямі, а тым не менш такі мне балючы. І радасна, што нагавор Клісенку не зашкодзіў. Праз два месяцы пасля вочнай стаўкі з Валодзем ён быў выпушчаны з турмы пад распіску пра нявыезд, дапушчаны да ранейшых абавязкаў, каб потым, у маі трыццаць дзевятага, калі ўжо не было яжоўшчыны, а прыйшло берыеўскае ўступнае паслабленне, быць апраўданым пракуратурай «як няправільна арыштаваны». Не ўзяўся пад увагу і той «антысавецкі анекдот», які, дарэчы, не падняўся да самога Сталіна, а быў нібыта расказаны пра Калініна. Сяржант Сагалаеў, які і следства вёў, і пратакол вочнай стаўкі падпісваў, вышэй узняцца не асмеліўся...

З падтэкстам бачыцца мне ўвесь той нагавор. Балюча было ад падазрэнняў, чытаючы і ў «заявлении», і ў пратаколах **перадсмяротнае трызненне** блізкага чалавека... Няўжо і гэта было патрэбна толькі для таго, каб так ламаць і зламаць упартую ахвяру?

Я паўтараю — як гэта добра, радасна, што нагавор той не зашкодзіў, што Клісенка дажыў да часу, калі яго сталі зноў пытацца пра Валодзю, і сумленна сказаў пра яго тое, што так прычынілася да зразумення, да апраўдання хоць пасмяротнага. Свет на без добрых людзей, і шкада, што падзякаваць ім ужо нельга.

У прачытаным мною і для тэмы маёй занатаваным ёсць і развагі аднаго з **тэарэтыкаў мужнасці.** З вышкі сваёй ён «аб'ектыўна» прымервае ды акрэслівае, хто з пакутнікаў як заламаўся, як ён мог не заламацца, і як гэта, бачыце, добра было б, каб і тут герояў было ў нас як найбольш. Такое адчуваецца ў гэтай дасужай філасофіі.

Назаву два імёны.

У пісьме да Аляксандра Салжаніцына Варлам Шаламаў, турэмна-лагерны пакутнік з дваццацігадовым стажам, піша так:

«...Я за свае два следствы не падпісаў ніводнага пратакола супраць самога сябе і ніякіх прызнанняў не даваў — **толк быў той самы. Далі тэрмін і так.** Да таго ж на следстве мяне не білі. А калі б білі (як з другой палавіны 1937 года і пазней) — не ведаю, што я зрабіў бы і як бы паводзіў сябе». А праз два гады, у іншым пісьме, паўтарае: «Я не ведаю, як бы я трымаўся, калі б мне іголкі ўсаджвалі пад пазногці».

Аўтар «Архіпелага ГУЛАГ», з навуковай грунтоўнасцю апісаўшы пяцьдзесят два спосабы катаванняў, кажа пра тых, хто не вытрымліваў:

«Чалавек дзейнічае напалавіну свядома або зусім несвядома, дык за яго паказанні не трэба на чалавека крыўдзіцца».

І далей, пры ўсёй эпічнай стрыманасці гэтага, таксама **нетэарэтыка** мужнасці,— такі прарыў у сардэчную, мудрую чалавечнасць:

«Брат мой! Не асуджай тых, хто трапіў у такое, хто аказаўся слабым і падпісаў лішняе...»

Не кожны мог быць героем. Аднак каму ж яно дадзена — права рабіць **такую праверку мужнасці!**

Я не ведаю, колькі ён перанёс, мой брат, ці на долю яго выпалі **ўсе** катаванні, **усе** пакуты, якія можа вынесці чалавек. Мне вельмі прыкра, балюча, што ён заламаўся, і мне яго, роднага, вельмі шкада.

Аднаго з тых, каго было так многа, многа...

Праклён і ўсім ка́там, і кожнаму ладу, які на гэтым трымаецца!

### СВАЁ

Я абавязаны яму жыццём.

Быў дзень, калі я, настолькі малы, што змог пралезці паміж радкаватымі металічнымі прутамі старога балкона, праціснуўся так і, з другога боку, упёршыся нагамі і ўчапіўшыся рукамі, пачаў пагойдвацца наперад ды назад. Пакуль не стала страшна і не закрычаў!.. Валодзя выбег на мой крык, паспеў схапіць за каўнер паліцечка. Старога, сіняга, якое я даношваў пасля двух старэйшых.

Я той чорны каракулевы каўнерык запомніў на ўсё жыццё. А на балкон той і на брук пад ім глядзеў у сорак дзевятым. І яшчэ раз, праз сорак гадоў, калі мне пазванілі пра муштук, успомніў таксама...

А мог жа я таксама і памерці разам з ім, нашым найстарэйшым. Калі б здзейснілася тое, што бацька вырашыў, калі з жонкай і меншымі ад'язджаў у вёску. Каб Ігнат, уладзіўшыся на прыходзе, забраў на выхаванне, на вучобу Мішу, а Валодзя, калі закончыць свой інстытут і стане працаваць, а я тым часам падрасту, забраў мяне. Коля застанецца пры бацьках, каб вырасці гаспадаром.

Бацька памёр праз два няпоўныя гады. Мяжа паміж Загорам і Адэсай варожа ўмацавалася. І з нашай замежнай вучобай нічога не выйшла.

У Валодзевым **трыццаць сёмым** мне было дваццаць. Многія там, куды мы меліся выехаць, у «ворагі народа» траплялі значна маладзейшымі. Курыў бы я, жывучы пры Валодзю, ці не курыў бы, як у Загоры, цяжка сказаць. Застаўся б ад мяне які-небудзь «вещдок» ці не застаўся б — таксама не скажаш...

Ёсць і такое яшчэ.

У першым раздзеле гэтай журботнай **недаса́гі** я расказаў, як адзін з маіх паплечнікаў па пісьменніцкім гурце, убачыўшы пасведчанне пра Валодзеву пасмяротную рэабілітацыю, высокаідэйна спытаўся, чаму я маўчаў, што брат мой быў рэпрэсіраваны.

Другі паплечнік, па гурце партызанскім, таксама мой трохі начальнік, вычытаўшы ў газеце пра знойдзены муштук, пазваніў ноччу па міжгароднім, паспачуваў і... зноў жа спытаўся, чаму я пра брата не казаў нічога раней.

У пасляваенным, літаратарскім варыянце гэта прыдалося б для належнага выпраўлення майго «складанага» жыццяпісу, дапамагло б патаемным біёграфам.

Ну, а ў ваенным, лясным, чаго добрага, прыдалося б яшчэ больш. Асабліва — калі б адразу не «польскі памешчык», а «нямецкі шпіён». Ды таму, хто і сам быў два гады ў Германіі...

Як тут не радавацца жыццю?!

Магло ж быць і трохі не так...

* Цяжкія ў вязня хвіліны. Мінск, 25.04.40. Думкі пра вас давядуць мяне да адчаю.

** 26.IV.40. Расплакаўся — цяжкі дзень.

Заканчэнне. Пачатак у №№ 8—13.

# ЗБІРАЦЬ ЗЯРНЯТКА ДА ЗЯРНЯТКА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й, 3-й стар.).**

цях атрымлівалася, што ўсё беларускае ўжо даўно сканала, засталіся толькі паасобныя экземпляры, ад якіх, можа быць, някепска было б пазбавіцца. Людзі, якія слухалі тыя палымяныя выступленні, расказвалі, што прамоўца нават цытаваў некалі сказанае мною ў 1948, 1950, 1960 гадах. Вось і ўявіце сабе, якім пільным быў нагляд за нядобранадзейнымі, якім пашыраным было «данасіцельства»... Жонка мая моцна была гэтым уражана, перапалохана нават. Ды і не дзіўна, баялася за дзяцей, за мяне. А калі я іншым разам затрымліваўся ў Мінску ў бібліятэцы, яна не знаходзіла сабе месца.

**Менавіта ў гэты час у наэлектрызаванай атмасферы, што папярэднічала XXIII з'езду партыі, педагог па адукацыі, літаратар, вакол якога групаваліся здольныя, смелыя, прагныя да ведаў маладыя паэты і празаікі, заняўся вывучэннем гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Каб выжыць і мець магчымасць займацца гісторыяй, Мікалай Іванавіч мусіў стаць рабочым-надомнікам. У таварыстве сляпых яму прапанавалі склейваць каробкі. Так і павялося ў іх сям'і: з раніцы гаспадар працуе ў бібліятэцы, пасля абеду — клеіць каробкі. А каб не губляць дарма часу і паберагчы зрок мужа на больш важныя справы, жонка, таксама педагог-гісторык, чытае яму ўслых свежыя газеты, часопісы, пакуль той склейвае каробкі. А таксама правіць стыль яго артыкулаў, друкуе іх на машынцы. Памяці жонкі, Лідзіі Цімафееўны Ермаловіч, прысвяціў вучоны галоўную працу свайго жыцця — кнігу «Старажытная Беларусь» — плён сваіх шматгадовых навуковых пошукаў.**

*— З якімі цяжкасцямі сутыкнуліся вы, самастойна заняўшыся вывучэннем гісторыі Беларусі?*

— Даследаванні, летапісы — усё было ў маім распараджэнні. Спачатку я заняўся вывучэннем манаграфій. Чытаў даследаванні такіх вядомых вучоных, як Антановіч, Дашкевіч, Любаўскі, Пашута, Аляксееў... Паўсюль, нават у працах Ластоўскага і Ігнатоўскага, абазначана была канцэпцыя, па якой Міндоўг заваяваў Чорную Русь і зрабіў Навагрудак сталіцай. Нават ужо ў 50-70 гадах нашага стагоддзя, калі, дзякуючы археалагічным пошукам, быў выяўлены выключна высокі ўзровень эканомікі і культуры старажытнага Навагрудка і яго вобласці, так званай Чорнай Русі, даследчыкі па-ранейшаму адмаўлялі яму ў самастойным значэнні і паказвалі яго толькі як аб'ект заваявання Літвы, якая ў сваю чаргу атаясамлівалася з сучаснай Літвой, што зусім скажала гісторыю ўтварэння Вялікага княства Літоўскага.

Пасля вывучэння манаграфій я заняўся летапісамі. Як вы ведаеце, Полацкі летапіс не дайшоў да нас, згарэў. Гісторык Тацішчаў быў апошнім, хто трымаў у руках адзін з яго спісаў. Ён паспеў зрабіць толькі некалькі выпісак. Між іншым, гэтымі выпіскамі Тацішчава асабліва і не карысталіся даследчыкі. Такім чынам, у якасці крыніц можна было выкарыстоўваць летапісы, урывачныя паведамленні, звесткі пра нашу гісторыю. У такіх абставінах гісторык чымсьці нагадвае палеантолага, які, скажам, па чэрапе, асобных костках можа аднавіць аблічча дагістарычнай істоты. Маючы ў сваім распараджэнні толькі дэталькі — намаляваць карціну. Вось такая паўстала задача. Дзе б ні знаходзіўся — пастаянна думаў пра гэта, супастаўляў, аналізаваў. Факты ж можна і так, і гэтак павярнуць. А ўвогуле летапісы — невычарпальная крыніца для сур'ёзнага даследчыка. Сёння паглядзеў — адно ўбачыў, праз некаторы час убачыш зусім іншае.

І вось які вывад я зрабіў, ён і здзівіў, і збянтэжыў мяне: нашы шаноўныя даследчыкі, як гэта ні прыкра, не карысталіся тэкстамі, самастойна не працавалі з крыніцамі. Яны бралі толькі тое, што было прыведзена іншымі, іх папярэднікамі. Калі тыя нешта прапускалі, то і яны паўтаралі ўслед. Я вельмі скрупулёзна, як пад мікраскопам, разглядаў кожную падзею. Бывае ж, што ў адным летапісе так напісана, а ў другім, у варыянце, крышку інакш даецца. Усё гэта я параўноўваў, выказваў свае меркаванні.

Ну, а самі летапісы, іх доўгае і грунтоўнае вывучэнне, перакрыжаваны аналіз рускіх, беларуска-літоўскіх летапісаў, тацішчаўскіх звестак, нямецкіх і польскіх хронік дазволілі грунтоўна прасеяць гісторыю Полацкай і іншых земляў і адкінуць пустую мякіну, выказаць свае меркаванні, здагадкі, заўвагі.

Так, мною цалкам абвергнуты тэзіс аб так званым літоўскім заваяванні беларускіх земляў, уладарніцтве літоўскіх феадалаў над Беларуссю і ўжо тым больш аб бездзяржаўнасці Беларусі. Летапіснае «Міндоўг Літву зане», на якое чамусьці не звярнулі ўвагі даследчыкі, азначае якраз, што Міндоўг заваяваў не Чорную Русь, а Літву. Вельмі каштоўным можна лічыць летапіснае ўдакладненне, якое сведчыць, што Міндоўгам была «поимана вся з… Литовьская». Гэта значыць, …о ён не валодаў ніякай часткай Літвы, нават сваёй, і мог захапіць яе ўсю не інакш, як з Навагародка. Толькі поўнасцю ігнаруючы гэтыя ясныя летапісныя сведчанні, можна был… варыць, што Міндоўг, аб'я…шы літоўскія землі, стварыў Літоўскую дзяржаву, а пасля захапіў Чорную Русь і іншыя беларускія землі. Усё гэта супярэчыць гістарычным фактам.

Цяпер што датычыцца летапіснай Літвы. Знаходзілася яна ў Верхнім Панямонні, дзе пакінула свае «аўтографы» ў выглядзе вёсак Літва, якія мы знаходзім і цяпер у Слонімскім, Ляхавіцкім, Уздзенскім, Стаўбцоўскім і Маладзечанскім раёнах. Яна ўрэзвалася клінам паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Навагародскай землямі і і побач з імі з'яўлялася гістарычнай вобласцю Беларусі.

Цяпер уявіце, што атаясамленне (наўмыснае ці выпадковае) летапіснай Літвы з сучаснай да непазнавальнасці скажала працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага, усю нашу гісторыю.

Пасля напісання кнігі «Па слядах аднаго міфа» я вырашыў працягнуць працу па напісанню старажытнай гісторыі Беларусі, узяўшы ўжо полацкі перыяд. Узнікалі зноў вялікія цяжкасці, прыходзілася шмат разоў перапраўляраць, удакладняць. Выяўлялася зноў многа скажэнняў і перайначванняў гістарычных фактаў. Я заглыбіўся ў матэрыял настолькі, унутры бушавалі такія страсці, такія пачуцці, што сам сабе я іншым разам здаваўся вар'ятам, які існуе ў некалькіх вымярэннях — у мінулым і ў сучаснасці. Тысячагадовую гісторыю маем! Гэта гісторыя — эпапея мужнасці і непераможнасці. Наша гісторыя рана зрабілася трагедыяй. Былі моманты, калі здавалася (асабліва нашым непрыяцелям), што гэта трагедыя пераходзіць у агонію. Аднак мы ўсё ж выстаялі. І ў нас ёсць будучыня.

*— Пэўна, вы пісалі, спадзеючыся, што калі-небудзь прыйдуць лепшыя часы і ваша праца ўбачыць свет. Вось яны і прыйшлі. А ці спрабавалі вы самі неяк прабіцца да людзей? Як успрымалі напісанае вамі журналісты і навукоўцы?*

— Разумееце, гэта для ўсіх было дзівам: гісторыяй займаецца чалавек, які не працуе ў інстытуце гісторыі! Недзе ў 1968 годзе я занёс рукапіс будучай кнігі «Па слядах аднаго міфа» ў часопіс «Полымя». Відаць, паглядзелі-паглядзелі і не рашыліся друкаваць. Іншыя, прачытаўшы, пыталіся: «Няўжо вы першы такі разумнік, які ўбачыў усе гэтыя факты?» Альбо і так: «Ах, дык вы хочаце даказаць, што Вялікае княства Літоўскае было беларускай дзяржавай? А ці ведаеце, што гэта разыходзіцца з агульнапрынятай у навуцы канцэпцыяй?» Зразумела, я добра ведаў, што напісанае і выпакутаванае мною разыходзіцца... Так і не ўбачыла гэта праца свайго чытача. Затое было надрукавана «даследаванне» Абецэдарскага «У святле неабвержных фактаў». Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што паасобныя часткі работы «Па слядах аднаго міфа» з'явіліся ў навуковым зборніку ў 1969 годзе, кароткі тэзісны выклад кнігі—у 1972 годзе ў зборніку «Беларускія старажытнасці». Адзін са спіскаў тэксту кнігі ўзялі сябры, друкавалі на машынцы, распаўсюджвалі сярод інтэлігенцыі. І толькі праз 21 год у нас адважыліся выдаць кнігу ў дзяржаўным выдавецтве.

У 1980 годзе, да 1000-годдзя дзяржаўнасці Беларусі, мне ўдалося надрукаваць некалькі артыкулаў з кнігі «Старажытная Беларусь». Адзін з іх, к вашаму гонару, у «Голасе Радзімы». А ў адным з часопісаў паступілі інакш: аддалі на рэцэнзію ў Інстытут гісторыі АН БССР. Калегі-гісторыкі працу забракавалі.

Нават у 1987 годзе, калі ў «Маладосці» з'явіўся мой артыкул пра стражытны Полацк, то Адам Залескі, нязгодны з маёй канцэпцыяй, быў абураны: «Ці так трэба пісаць пра Старажытны Полацк?» Ледзь не злачынцам палічылі мяне некаторыя нашы вучоныя за тое, што падводжу чытача да думкі, што Вялікае княства Літоўскае было беларускай дзяржавай. А яно ж сапраўды было **менавіта беларускай** дзяржавай! Хіба ж яны не разумеюць, якую вялікую шкоду нашаму народу прынесла сцвярджэнне аб літоўскім заваяванні, панаванні літоўскіх феадалаў. Добраахвотна аддалі сваю гісторыю іншым, далі сябе абакрасці, адбіўшы тым самым народу памяць, якая нагадвала яму пра мінуўшчыну.

*— Скажыце, Мікалай Іванавіч, якой вы бачыце будучыню Беларусі? Як галасавалі на нядаўнім рэферэндуме?*

— Я галасаваў супраць Саюза. З таго тэксту дагавора, які быў надрукаваны перад рэферэндумам, усё-такі не бачна правоў рэспублік у Саюзе. Як мне падалося, то вяршыць лёс рэспублік будзе зноў цэнтр. Я — за самастойнасць, суверэнітэт Беларусі. Але пры ўсім гэтым нельга блытаць дзвюх рэчаў — самастойнасці і ізаляванасці. Самастойнасць зусім не азначае — ізалявацца ад суседніх рэспублік, паставіць кітайскую сцяну. Неабходна захоўваць усе эканамічныя, культурныя сувязі. І гэта, можа, будзе больш згуртоўваць Саюз, чым дыктат цэнтра. Беларусь незалежная і суверэнная—гэта ж спрадвечная мара беларусаў. У рэшце рэшт, калі мы ўспомнім гісторыю Полацкай зямлі, то ўбачым, што яна ўвесь час,—прычым,першая!—з гэтых старажытных, так званых рускіх земляў, змагалася за сваю самастойнасць і першая заваявала яе. Фактычна Вялікае княства Літоўскае, беларуская дзяржава, сфарміравалася раней, чым руская. Калі яшчэ толькі падымалася Масква пры Іване Каліце, беларускія землі былі ўжо амаль усе аб'яднаныя. Іншая справа, што ў сувязі з неспрыяльнымі гістарычнымі ўмовамі заціснутая, з аднаго боку, паміж нацыяналістычнай Польшчай, а з другога вялікадзяржаўнай Масквой, яна не магла змагацца на два франты, і ў гэтых цяжкіх умовах паступова страціла сваю самастойнасць. Спачатку Польшча многа зрабіла для вынішчэння ўсяго беларускага, пасля, заваяваная рускімі самадзержцамі, амаль канчаткова страціла перспектыву свайго далейшага развіцця. На некаторы час гэта перспектыва адкрылася зноў, у 20-х гадах нашага стагоддзя, але тут жа была і закрыта Сталіным. Зараз зноў наступіў час, і мы ўжо можам ва ўвесь голас заявіць пра сваю самастойнасць і незалежнасць. Зарукай таму працэсы дэмакратызацыі і нацыянальнага адраджэння, што адбываюцца ў краіне з пачаткам перабудовы.

**... Мы сядзім і гутарым з Міколам Ермаловічам у цесным калідорчыку «Ленінкі», дзе апошнія 20—25 гадоў ён бывае амаль штодзённа. А жыве ў Маладзечне. І кожную раніцу амаль дзве гадзіны на электрычцы туды і дзве — назад увечары.**

**У выходныя …ні таксама. Некалі ў жонкі …алая Іванавіча суседзі пыт…ся: «Во, відаць, многа грошай твой муж зарабляе, не ведае ні святаў, ні выхадных. Сябе хаця б пашкадаваў». Нічога …ды не адказвала жанчын… …каўным. Хаця грошай ад то… …еймаверна карпатлівай і напружанай працы ў сям'і не прыбывала. Ды і не дзеля грошай дапамагала яна ва ўсім гэтаму апантанаму чалавеку. Любіла яго, ведала, што робіць вялікую і карысную справу.**

**Хіба проста ўвесь час ісці супраць цячэння, пераадольваць перашкоды! Памятаю, як упершыню ўбачыла Міколу Ермаловіча ў чытальнай зале «Ленінкі» гадоў 15 назад. Ён падносіў блізка-блізка да твару кнігу, аж не верылася, што так можна нешта бачыць. А ён бачыў толькі так. Альбо выцягваў з сумкі павелічальнае шкло і, сагнуўшыся, падоўгу застываў у такой нязручнай позе. Сёння зрок яшчэ больш пагоршыўся, дактары прапанавалі зрабіць аперацыю, але без гарантыі. Ён адмовіўся. Працягвае працаваць над віленскім перыядам гісторыі, спадзяецца дабрацца да Люблінскай уніі. Піша фактычна наўздагад. А каб трымаць сябе ў форме — строгі рэжым, з раніцы зарадка і халодны душ.**

**Глыбокія зморшчыны парэзалі твар майго субяседніка. За тоўстым шклом акуляраў — спакойныя вочы сумленна пражыўшага на зямлі чалавека, якога лёс захаваў для нас з вамі, для Беларусі. Перажытае, вядома, пакінула рубцы і шрамы на сэрцы, але не зрабіла яго ні злым, ні жорсткім, ні пакрыўджаным на ўвесь свет. З нейкай дзіцячай даверлівасцю, бясхітраснасцю расказвае М. Ермаловіч пра сябе. З цёплынёй і ўдзячнасцю — пра сяброў. Але так і не вымавіў ён услых словы пра сваю такую выпакутаваную і такую пяшчотную, пранізлівую любоў да зямлі продкаў, да сваіх суплямённікаў, ды любоў гэтая і адданасць Беларусі — у кожным яго ўчынку, у кожным радку напісаных ім кніг.**

## *ЗДЫМАЕЦЦА КІНО*





**На кінастудыі «Беларусьфільм» ідзе работа над фільмам «Дурніца» па аднайменнай п'есе французскага пісьменніка Марселя Ашара.**
**Ставіць карціну рэжысёр Аляксей Коранеў, вядомы гледачу па стужках «Вялікі перапынак», «Па сямейных абставінах», «Акселератка», «Адам і Хева» і многіх іншых. У галоўных ролях заняты вядучыя акцёры савецкага кіно.**
**НА ЗДЫМКАХ: выканаўца галоўнай ролі Жазефы—актрыса Малога тэатра СССР Валерыя БАГУК; кадр з фільма. У ролях: Севінье — Мікалай КАРАЧАНЦАЎ, Марэстан — Сяргей МІЧЫЦКО.**

**Фота У. ШУБЫ.**

## «АМАДЭУС»

Афішы з гэтым імем з'явіліся на вуліцах нашай сталіцы. Людзі дасведчаныя ведаюць: так звалі геніяльнага Вольфганга Амадэя Моцарта, памяці якога прысвячаецца VIII фестываль «Мінская вясна». 200-годдзе з дня смерці вялікага кампазітара па рашэнні ЮНЕСКА адзначаецца сёлета ва ўсім свеце. І сімвалічна, што адкрыўся фестываль 2 красавіка неўміручым легендарным «Рэквіемам» — знакамітым музычным завяшчаннем Моцарта. Выканаўцы — Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР, Дзяржаўны каўнаскі хор і салісты, дырыжор Я. Колабаў.

Амаль увесь месяц у вялікай і камернай залах Беларускай дзяржаўнай філармоніі будзе гучаць і самая папулярная, і менеі вядомая шырокай публіцы музыка Моцарта ў выкананні лепшых беларускіх калектываў, маладых ды зусім юных салістаў, гасцей з Ташкента, Вільнюса, Каўнаса, Ленінграда, Масквы, з Германіі, Канады, Італіі...

# ЖЫВЁЛЫ ДАЛЁКІХ КРАІН





**У Доме прыроды ў Траецкім прадмесці беларускай сталіцы працуе выстаўка «Жывёлы далёкіх краін». Змеі, водныя чарапахі, папугаі, жабы, скарпіён, пасуха—усяго каля 30 відаў насельнікаў Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі, Паўднёва-Усходняй Азіі прадстаўлена тут. На выстаўцы пра экзатычных жыхароў стэпаў і джунгляў расказваюць супрацоўнікі лабараторыі «Экацэнтр» — арганізатары экспазіцыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: ля клетак з птушкамі; каго не зацікавяць незвычайныя жывёліны.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

# БЕЛАРУСКІЯ ПІСАНКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

раб пісанак прымяркоўваўся да Юр'я, калі першы раз выганялі свойскую жывёлу ў поле. Так, яшчэ ў канцы XIX стагоддзя на Гродзеншчыне бытаваў звычай класці яйка на парозе хлява перад выганам у поле скаціны, каб забяспечыць яе здароўе і плоднасць.

З увядзеннем хрысціянства афіцыйная рэлігія, адмовіўшыся ад беспаспяховай барацьбы з язычніцтвам, пачала падладжвацца пад старажытныя святы і абрады. Так маляваныя яйкі ўвайшлі ў абрад. прымеркаваны да народнага веснавога свята Вялікадня.

У беларусаў, як і ў суседніх народаў, бытавалі дзве тэхнікі аздаблення пісанак: васкаванне і гравіраванне. Паралельна шырока ўжывалася звычайная суцэльная афарбоўка яек (крашанкі), якая ўжо ў пачатку XX стагоддзя ў многіх рэгіёнах выцесніла працаёмкія прыёмы дэкаравання і дажыла да нашых дзён.

Васкаванне — найбольш старажытная, пашыраная і любімая тэхніка аздаблення пісанак у многіх народаў — заключаецца ў нанясенні васковага ўзору на паверхню яйка для захавання яго натуральнага колеру пры апусканні ў фарбавальнік. Наносілі васковы ўзор самымі звычайнымі і простымі падручнымі прадметамі: палачкай, цвічком, нават запалкай з раскляпаным накшталт пэндзля канцом. Аднак найбольш чысты і дакладны ўзор давалі спецыяльныя інструменты: пісак (бляшаная леечка на палачцы-дзяржанні) і шпілька (палачка з убітым у яе канец маленькім цвічком).

Яйкі з нанесеным васковым узорам вытрымлівалі ў фарбавальніку — з шалупіння цыбулі, настою ржавага жалеза і альховай кары ў квасе і інш. Затым іх вымалі з фарбавальніку, падсушвалі, падагравалі і сціралі воск. На каляровым фоне (чырвоным, чорным, карычневым) атрымліваўся выразны белы ўзор.

Характар дэкору пісанак вызначаўся перш за ўсё тэхналогіяй вытворчасці. Нанясенне растопленага воску леечкай-пісаком давала лінейны арнамент і нагадвала звычайнае маляванне. У прынцыпе лініі могуць мець самы адвольны характар, але традыцыйна бытавала старажытная кампазіцыя са схільнасцю да геаметрычных і моцна стылізаваных раслінных форм. Звычайна плошча яйка суцэльнымі лініямі-паяскамі дзялілася на ўчасткі часцей за ўсё на 8: адзін паясок праходзіў упоперак яйка, два — праз яго канцы. У месцах скрыжаванняў змяшчаліся матывы накшталт хваёвых лапак, грабелек, васьміпялёсткавых разетак (як і ў ткацтве) і інш.

Шырока бытавала аздабленне з дапамогай шпількі — палачкі з цвічком. Плешку цвічка мачалі ў растоплены воск, і на паверхні яйка атрымлівалася кропка ці выцягнутая кропелька. Здавалася б, такі нешырокі дыяпазон выяўленчых элементаў моцна абмяжоўваў магчымасці майстрых, але на самай справе разнастайнае камбінаванне кропак і кропелек дае безліч варыянтаў дэкору. Сярод усіх узораў пісанак няма і дзвюх абсалютна аднолькавых.

Найбольш пашыраны і любімы матыў, які атрымліваецца з кропелек,— круг-разетка, папулярны і ў іншых відах народнага мастацтва як беларусаў, так і іншых народаў. Зразумела, што на пісанках, звязаных з веснавымі абрадамі, матыў сонца з часоў язычніцтва займае цэнтральнае месца. Шматпялёсткавыя разеткі размяшчаюцца звычайна па цэнтры яйка, свабодныя плошчы запаўняюцца паўразеткамі, кропкамі, ланцужкамі. Сустракаецца старажытны, відаць, калісьці пашыраны матыў птушкі (курыца), кветкі, нават фігуркі чалавека.

Паралельна з такім традыцыйным, «чыстым» відам народнага мастацтва ў розных мясцінах Беларусі апошнім часам адзначаны таксама разнастайныя праявы самадзейнасці, якія выцеснілі старажытны працаёмкі спосаб васкавання: ручная размалёўка фарбамі, прымяненне замест воску ізаляцыйнай стужкі, пластыліну, гумак з веласіпедных камер і інш. Зрэдку трапляецца гравіраванне — прадрапванне ўзору па афарбаванаму яйку. Але гэтыя спосабы не даюць такой чысціні, дакладнасці і прыгажосці дэкору, як васкаванне.

Адраджэнне забытых звычаяў і абрадаў, характэрнае для нашых дзён, уключае і аднаўленне звязанай з імі атрыбутыкі. Гэта ж датычыць і пісанак, якія ўзнаўляюцца як па традыцыйнай тэхналогіі, так і ў выглядзе размаляваных алейнымі фарбамі драўляных точаных загатовак. Апошнія могуць быць і арыгінальнымі сувенірамі з характэрным нацыянальным каларытам.

**Яўген САХУТА.**

# БЕЛАРУСЬ—КРЫНІЦА ПЕСНІ

*Словы С. ПАНІЗНІКА* *Муз. А. КАЗЛОВАЙ*




**Нам ніколі не памерці**
**А ні у якім горы,**
**Бо з маёй зямлі не сцерці**
**Сінія азёры:**
**Нашу Нарач, нашу Свіцязь...**
**Столькі сілы ў слове!**
**Беларускі край, што віцязь,** **2 разы**
**Слаўны роднай мовай.**
**Нам ніколі не памерці,**
**Не згарэць, як свечкі;**
**Прападуць азёры ў свеце —**
**Застануцца рэчкі:**
**Наша Ясельда і Шчара,**
**Наш Дняпро і Нёман,**
**Беларусь — край светлых чараў** **2 разы**
**Кожнаму знаёмы!**
**Нам ніколі не памерці,**
**Не растаць, як znічкі —**
**Пасля нас і нашы дзеці**
**Стануць ля крынічкі,**
**Ля якой змаглі ў час весні**
**Зноў мы ўкараніцца...**
**Беларусь — крыніца песні,** **2 разы**
**І любві крыніца!**

# НІ ГОРЫ, НІ РАВЫ...

На любых трасах, нават прасёлачных дарогах, упэўнена адчувае сябе новая спартыўная машына карт-крос, серыйны выпуск якой пачалі на Магілёўскім аўтамабільным заводзе імя Кірава.

— Машына гатова да трэніровачных заняткаў і спаборніцтваў у любых умовах, — расказвае галоўны інжынер прадпрыемства Ніканор Міхаловіч. — Гэта адкрывае шырокія магчымасці для развіцця тэхнічнага віду спорту, асабліва ў сельскай мясцовасці, дзе няма добраўпарадкаваных палігонаў. Навінка простая ў кіраванні, мае высокую манеўранасць, развівае хуткасць да шасцідзесяці кіламетраў у гадзіну. Канструктары прадугледзелі дадатковыя меры бяспекі, паставіўшы спецыяльныя дугі.

Канструкцыю распрацавалі сумесна спецыялісты магілёўскага завода і цэнтральнага канструктарска-тэхналагічнага бюро ЦК ДТСААФ СССР з Ленінграда. Выкарыстаны рухавік мінскага мотавелазавода, а шыны — тыя ж, што і ў матацыкла для вёскі.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 502.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12